**Доўгія ўцёкі ад таталітарызму**
2 стар.

**Як я віншаваў цешчу**
5 стар.

**Ці была БНР марыянеткавай дзяржавай?**
6 стар.

ПЛЮС TV

ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, ПАСТАВЫ, МЁРЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года | № 12(103) 21 -- 27 сакавіка 2002 года | Кошт па дамове

*Фота Ул. Скрабатуна*



Нядаўна, 17 сакавіка, а 14-ай гадзіне на скрыжаванні вуліц Кірава і Садовай была адчынена новая прыватная крама харчовых тавараў "Садовае кальцо". *(працяг на стар.2)*




# Заява

## ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў"

Прысуд злачыннай бандзе былога "алмазаўца" В. Ігнатовіча, вынесены 14 сакавіка 2002 г. Мінскім абласным судом, так і не даў адказу на галоўнае пытанне: што здарылася 7 ліпеня 2000 года з нашым калегам, сябрам Беларускай асацыяцыі журналістаў Дзмітрыем Завадскім, дзе ён?

Сярод злачынстваў, якія здзейсніла банда Ігнатовіча, выкраданне журналіста Дзмітрыя Завадскага фактычна засталося не даказаным ні падчас папярэдняга следства, ні ў працэсе судовага разбіральніцтва. Няма ніякіх доказаў, нават "шчырага прызнання" В. Ігнатовіча або ягоных саўдзельнікаў у іх замяшанасці ў выкраданні Дз. Завадскага.

Судовае паседжанне Мінаблсуда праходзіла за зачыненымі дзвярыма, што не дазволіла ўдзельнічаць або прысутнічаць на ім прадстаўнікам БАЖ, іншых грамадскіх арганізацый і стала адной з падстаў, якія выклікалі сумневы ў аб'ектыўнасці і ўсебаковасці судовага разбіральніцтва.

Не аспрэчваючы ў цэлым абгрунтаванасці прысуду па крымінальнай справе групы В. Ігнатовіча, мы, аднак, лічым, што абвінавачваць яго ў выкраданні Дзмітрыя Завадскага не было дастатковых падстаў. Такім чынам, таямніца знікнення нашага калегі і яго далейшы лёс засталіся нявысветленымі.

Зыходзячы з гэтага, БАЖ пакідае за сабой права патрабаваць ад Пракуратуры Рэспублікі Беларусь прыняць рашэнне і выдзеліць эпізод выкрадання Дзмітрыя Завадскага з крымінальнай справы групы В. Ігнатовіча ў асобную справу з мэтай правядзення дадатковага ўсебаковага і аб'ектыўнага расследавання.

*15 сакавіка 2002 г.*
*Праўленне ГА "БАЖ"*

## Праблема застаецца

«Вольнае Глыбокае» ў артыкуле "Падатковы шок" ужо пісала пра праблемы, з якімі сутыкнуліся тыя з прыватных прадпрымальнікаў, якія займаліся перагонкай і продажам аўтамабіляў замежнай вытворчасці. Вядома, што гэты артыкул знаходзіцца ў Мытным камітэце Рэспублікі Беларусь. Канкрэтнага рашэння па пытанню дадатковага грашовага абкладання так званых "гоншчыкаў" яшчэ не прынята. Але крымінальныя справы па спагнанні з іх уяўных запазычанасцей пакуль што прыпыненыя.

І ўсё-такі праблема застаецца.

*А.Касцень*

## У НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ

Расійскі рубель не будзе ўведзены ў Беларусі. Прынамсі, гэтага не адбудзецца 1 студзеня 2003 года, як паведамлялі некаторыя СМІ, -- запэўніў старшыня Нацбанку Пётр Пракаповіч. «Увядзенне расійскага рубля запланаванае на заключным этапе інтэграцыі. А мы і так прыпазняемся з інтэграцыйнымі працэсамі» -- заявіў сп. Пракаповіч.

Беларусь спыніла імпарт «ножак Буша». Галоўная ўправа вэтэрынарыі ўжо месяц не дае дазволаў на ўвоз курынага мяса з ЗША, а тэрытарыяльныя санітарныя службы вядуць праверку імпартных кумпячкоў на прадмет знаходжання сальманэлы. Аднак імпартаваныя раней кумпячкі паранейшаму прадаюць у крамах. Імпартнае курынае мяса таннейшае за беларускае: айчынныя кумпячкі каштуюць каля **$2**, імпартныя -- каля **$1,5**.

Міністэрства статыстыкі і аналізу ўжо нават і не хавае, што сітуацыя з выплатай заробкаў у краіне катастрафічная. Толькі за самы кароткі месяц -- люты -- запазычанасць па заробках павялічылася на 37,7 мільярда рублёў, альбо на 214%. Дынаміка росту пазыкаў пагражальная, калі такія тэмпы застануцца: да лета запазычанасць па заробках можа зраўняцца з фондам заработнай платы.

## Віншую!

З нагоды 84-х угодкаў абвешчаньня незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі ў Менску 25-га сакавіка, 1918 г. віншую са сьвятам перадусім сваю радню, сародзічаў Глыбачан, а перадусім рэдакцыю і супрацоўнікаў ды чытачоў "Вольнага Глыбокага". Добрага здароўя, натхненьня ў творчай працы й змаганьні за незалежнасьць Рэспублікі Беларусь ды поўныя правы ў яе дэмакратычным ладзе.
З Богам! Жыве вольная й незалежная Беларусь!

**Кастусь Акула, г. Таронта, Канада.**

Заўвага: захаваны стыль і правапіс арыгіналу.

## Фотафакт

*Фота А. Храпавіцкага*



**Шаркоўшчынскі вузел паштовай сувязі адмовіў 11 сакавіка выдаўцу "Вольнага Глыбокага" Ул. Скрабатуну заключыць дамову на падпіску газеты.**

**На здымку:** намеснік дырэктара пошты Шыняўская Таццяна Ігараўна кажа: "Мы не хочам, каб вашу газету ў нас выпісвалі, пакуль устрымаемся ад заключэння дамовы, у нас і так паштальёны перагружаныя".

## Надвор`е*

Агляд складзены па дадзеных за 18/03/2002 0:00 GMT

| | 21/3 Чц | 22/3 Пт | 23/3 Сб | 24/3 Нд | 25/3 Пн | 26/3 Ат | 27/3 Ср | 28/3 Чц |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Тэмпература: з 14 гадзін | +4 | +5 | +4 | +2 | +2 | +5 | +5 | +7 |
| з 2 гадзін | +3 | -4 | 0 | +1 | -3 | -7 | -7 | -2 |
| Ціск, мм рт.сл. | 736 | 739 | 748 | 754 | 751 | 748 | 747 | 742 |
| Тэндэнцыя ціску | -1 | +3 | +9 | +6 | -3 | -3 | -1 | -5 |
| Накірунак ветру | Пд | Пн | Пн | Пн-У | Пн-У | Пн | Зах | Пд |
| Хуткасць ветру, м/с | 2 | 1 | 5 | 4 | 3 | 0 | 2 | 5 |

© Gismeteo.Ru

Заўвага: прагноз надвор`я ў нашым рэгіёне пададзены ў прывязцы да г. Полацка

**Падпісны індэкс на газету "Вольнае Глыбокае" -- 63668. Кошт падпіскі на месяц -- 1000 руб., на квартал -- 3000 рублёў.**

**Нагадваем, што наша выданне ўжо можна выпісаць і на Пастаўшчыне.**

# Другія ўцёкі ад таталітарызму

**На памяці аднаго пакалення ва ўмовах сацыялістычнага, таталітарнага ладу мне бачацца дзве спробы масавых уцёкаў менавіта ад таталітарызму гэтага ладу маіх землякоў і ў цэлым жыхароў заходніх раёнаў Беларусі. Гаворка тут, канешне, не пойдзе пра масавы збег яўрэяў з былога СССР. Не, гэтыя ўцёкі насілі і носяць хутчэй не геаграфічны, а сацыяльны характар. Але па сутнасці сваёй з'яўляюцца ўсё ж такі ўцёкамі, імкненнем схавацца ад пануючай сістэмы, атрымаць хоць нейкую, хоць адносную свабоду, найперш эканамічную.**

Час першых уцёкаў прыпадае на 50-60 гады. Як вядома, калгаснае будаўніцтва ў Заходняй Беларусі пасля 1939 года і да пачатку Вялікай Айчыннай вайны мела толькі характар першых спроб. Асноўны наступ на аднаасобніка-вяскоўца разгарнуўся ўжо пасля вайны. І працягваўся ён, калі параўнаць з перыядам калектывізацыі ва Усходняй Беларусі, значна даўжэй. Супраціў вёскі акалгашванню быў настойлівым, дзе-ні́дзе прымаў нават збройныя формы. Сказвалася тут, напэўна, і тое, што ў перадваенны перыяд пры польскай дзяржаве паспяхова вялася на нашых землях хутарызацыя, што, дзякуючы выезду ў заакіянскія краіны на заробкі, заходнебеларускае сялянства сустракала савецкую ўладу, маючы моцную праслойку кулакоў і асабліва сераднякоў па вызначэнню гэтай улады, людзей, якія мелі зямлі дастаткова і ўмелі, жадалі на ёй працаваць так, як ім хочацца. Але ў 1953 годзе прыйшоў пералом. Практычна ўсе аднаасобныя гаспадаркі былі сагнаныя ў калгасы. Вось тут і пачаліся ўцёкі з іх. У Заходняй Беларусі гарадское насельніцтва складала толькі 12 працэнтаў. А ў цэлым па Беларусі гарадское насельніцтва вырасла з 1950 па 1970 год на 22 працэнты. У год больш, чым на адзін працэнт. І, канешне, галоўная колькасць перасяленцаў з вёскі ў горад прыпадала на Заходнюю Беларусь. Гэта было не толькі дэмаграфічнай заканамернасцю. Гэта былі ўцёкі ад незразумелых, несправядлівых, жорсткіх у адносінах да простага чалавека калгасаў. Сёння мала ў якой заходнебеларускай сям'і няма сваякоў у Мінску. Але ўцякалі не толькі ў сталіцу. Нябачнымі раней тэмпамі расло насельніцтва заходнебеларускіх гарадкоў. Мае родныя Паставы, маючы пасля вайны ўсяго каля трох тысяч насельніцтва і называючыся горадам толькі намінальна, вельмі хутка павялічылі колькасць свайго насельніцтва ў некалькі разоў. Прычым, гэта не было звязана з якім-небудзь буйным будаўніцтвам, развіццём прамысловасці. Не, людзі шукалі тут любую, нават самую нізкааплатную працу. Браліся за любую справу, толькі б не парабкаваць у калгасе за пустыя працадні, якія яны здзекліва называлі «палачкамі». І ўцёкі гэтыя былі зусім нялёгкімі. Правы водпуску вяскоўца ў горад было аддадзена спачатку на водкуп усё тым жа старшыням калгасаў, у асноўным людзям наездным, часта нават не беларусам, якія насцярожана, калі не варожа ставіліся да мясцовага люду. А часта патрабавалі проста адкупных за права вырвацца з калгаснага пекла. У сям'і майго дзядулі па бацьку было чатыры сыны і дачка. І ўсе яны апынуліся па-за межамі вёскі. Не таму, што не хацелі працаваць на зямлі, а таму што беглі ад новых стасункаў працы на зямлі. У сям'і дзядулі па маці - сын і дачка. І яны пераехалі ў райцэнтр. У гарадку выраcталі новыя і новыя вуліцы, на якіх вельмі часта побач сяліліся былыя аднавяскоўцы. Яны будаваліся гадамі з-за недахопу сродкаў і матэрыялаў, часта клаліся спаць, калі скрозь непакрытую страху свяцілі зоры. Яны заводзілі кароў, свіней, курэй, бо не маглі яшчэ адвыкнуць ад сялянскага ладу жыцця, ды і пракарміцца без гэтага практычна не маглі. Але аб вяртанні ў вёску да грубых старшынь, да разапселых і п'яных брыгадзіраў і думкі не было. У горадзе таксама было несалодка. З-за наплыву дармавой рабочай сілы станавіліся князькамі кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый. Але ўсё роўна гэта было палёгкай. Уцёкі сябе апраўдвалі.

Другія масавыя ўцёкі пачаліся ў дзевяностых гадах. Калі з'явіліся магчымасці парваць з сацыялістычнай вытворчасцю, з яе планамі і ледзь не планавай бязглуздзіцай, нізкімі заробкамі, поўнай залежнасцю ад вышэйстаячага кіраўніцтва. Яны таксама былі ў многім змушанымі з-за пастаянна растучага беспрацоўя. Але шмат было і людзей, ужо дзяцей і ўнукаў тых, хто некалі бег ад калгасаў, якія самі пакідалі наседжаныя месцы, станавіліся вольнымі ад пісаных і няпісаных законаў сацыялізму і кідаліся ў стыхію свабоднага і зусім яшчэ недасканалага прадпрымальніцтва. Сёння ў Пастаўскім раёне, не самым спрыяльным для прадпрымальніцтва ў рэгіёне, налічваецца каля шасцісот зарэгістраваных індывідуальных прадпрымальнікаў. Ды, як правіла, за кожным прадпрымальнікам стаіць альбо хто-небудзь з сямейнікаў, альбо кампаньён, альбо нават некалькі чалавек. А колькі іх незарэгістравана, займаецца нейкай справай, пакуль што хаваючы свой занятак. Бо кожнаму зразумела, што рэгістрацыя аўтаматычна цягне за сабою не толькі дадатковыя выдаткі ў выглядзе падаткаў, але і вялікую залежнасць ад той пльмы чыноўнікаў, колькасць якіх расце, відаць, у большай прапорцыі, чым прыватны сектар. Зразумела, і ў Паставах найбольш прадпрымальнікаў займаюцца гандлем. І стварае трывалую канкурэнцыю мясцоваму кааператыўнаму гандлю. Некалі, яшчэ ў часы перабудовы мясцовае кіраўніцтва праявіла дальнабачнасць, пабудаваўшы новы і вельмі прыстойны, умяшчальны кірмаш. Але сёння ён ужо не ўмяшчае гандлёвы люд. Які, дарэчы, у апошні час пад ціскам праблем і жорсткіх патрабаванняў гаспадароў гандлёвых месцаў пачынае гуртавацца, ствараць свае структуры.

Дык ці сталі ўдалымі гэтыя ўцёкі?

Відаць, што так. Нягледзячы на тое, што падатковая сістэма застаецца складанай, накіраванай не за, а супраць развіцця прыватнага сектару, што ў мясцовых выканаўчых улад вельмі шырокія паўнамоцтвы ў праве аказваць ціск на гэтых людзей. Галоўнае ў рэальнасці іх існавання.

Калі паглядзець на Польшчу і іншыя краіны былой Усходняй Еўропы, там, магчыма, пераўтварэнні да лепшага адбыліся досыць паспяхова і не так балюча таму, што і ў часы поўнага панавання сацыялістычнай ідэалогіі там усё-такі быў, прысутнічаў прыватны сектар. Нам, відаць, давядзецца прайсці гэты шлях ад самага пачатку.

Толькі б не давялося зноў куды-небудзь уцякаць.

*Алесь Касцень*

# ЗАЯВА

## Кансультатыўнага Савета апазіцыйных палітычных партый Аб прыпыненні крымінальнага праследвання незалежных журналістаў на Беларусі




У Беларусі працягваецца праследванне сяброў палітычных партый, актывістаў грамадскіх арганізацый, журналістаў незалежных СМІ і грамадзян, якія прымалі актыўны ўдзел у барчай кампаніі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у верасні 2001 года.

Дзеючая ўлада ў барацьбе са сваімі палітычнымі і ідэалагічнымі апанентамі перайшла да метадаў крымінальных рэпрэсій, у тым ліку і ў адносінах незалежных СМІ. Так, узбуджаны крымінальныя справы па фактах публікацый крытычных матэрыялаў у газетах "Наша свабода", "Рабочы", "Пагоня". Галоўны рэдактар раней зачыненай газеты "Пагоня" Мікалай Маркевіч і яе карэспандэнт Павел Мажэйка абвінавачваюцца ў паклёпе супраць Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па ч.2 арт.367 Крымінальнага кодэкса. Ім пагражае пакаранне – да 5 год пазбаўлення волі.

Кансультатыўны Савет лічыць, што крымінальнае праследаванне журналістаў незалежных выданняў з'яўляецца актам палітычнай расправы над іншадумцамі, а на прыкладзе газеты "Пагоня" адпрацоўваецца мадэль знішчэння ўладай незалежных мас-медыя – адзінай адкрытай трыбуны грамадскай думкі ў Рэспубліцы Беларусь. Такія дзеянні сведчаць аб палітыцы "двайных стандартаў" кіраўнікоў беларускай дзяржавы, калі на словах яны дэкларуюць сваю прыхільнасць дэмакратычным ідэалам, а на справе выкарыстоўваюць рэакцыйныя метады кіравання краінай.

Кансультатыўны Савет патрабуе ад беларускіх уладаў прыпыніць крымінальныя справы ў адносінах журналістаў незалежных выданняў.

Кансультатыўны Савет звяртаецца да міжнароднай супольнасці з прапановай расупольнасці дэкларацыі беларускага ўраду аб яго гатоўнасці да дэмакратычных пераўтварэнняў толькі па канкрэтных справах, і ў першую чаргу па забеспячэнню свабоды выказвання думкі.

***Прынята на пасяджэнні Кансультатыўнага Савета апазіцыйных палітычных партый 13 сакавіка 2002 г.***

*Старшынствуючы*
*Уладзімір Нісцюк*

# «Канспекту» 3 гады

15 сакавіка ў Наваполацку адбылося святкаванне юбілею газеты "Канспект". Узнікла выданне роўна 3 гады і адзін месяц таму, і ад пачатку стала адзіным незалежным люстэркам жыцця полацкіх студэнтаў. Шмат было прыемных і непрыемных момантаў у гісторыі "Канспекта", не заўсёды мы знаходзілі разуменне універсітэцкіх уладаў, калі закраналі балючыя праблемы нашага ВНУ. Аднойчы ж мы сустрэлі варожую рэакцыю лідэра Маладога фронта Наваполацку, які сур'ёзна ўспрыняў нашу сатыру "Навінкі з Задзвінкі". Тым не менш газета працягвала існаваць і вырасла ў прафесійнае моладзёвае выданне, аўдыторыя якой не толькі ПДУ, але і навучэнцы коледжаў, вучэльняў і ліцэяў. "Канспект", як і раней, стаіць на прынцыпах свабоды слова і плюралізму меркаванняў. Спадзяюся, што газета вырасце ў магутнае выданне з вялікім накладам і аўдыторыяй. Мае віншаванні калегам, а землякам-студэнтам парада – шукайце новы нумар вашага выдання, які выйшаў якраз у дзень юбілею і далучайцеся да яго чытачоў.

*А.Храпавіцкі, заснавальнік і першы рэдактар газеты "Канспект"*

# Лепшая пара 1-ай школы

На мінулым тыдні былі падведзены вынікі святочнага конкурсу сярод навучэнцаў 11-х класаў СШ№1. Конкурс мусіў выявіць найлепшую пару школы. Удзельнікі адказвалі на пытанні вядучых і падтрымліваліся гучнымі апладысментамі аднакласнікаў. Паводле вынікаў такой парай сталі вучні 11 "А" класа Дзяніс Славецкі і Вольга Баранава. Пераможцам было прапанавана запрашэнне ў кавярню «Мар'юшка».

*А.Храпавіцкі*

# "Садовае кальцо"



*Фота Уладзіміра Скрабатуна*

Як сказала аўтару гэтых радкоў дырэктар: "Мы, калі вырашылі пабудаваць гэтую краму, хацелі зрабіць прыемнае жыхарам нашага Глыбокага. Людзі павінны заходзіць не ў хлеў, а ў прыстойную еўрапейскую краму".

Як запэўнілі супрацоўнікі крамы, у хуткім часе тут можна будзе заказаць і тавар з дастаўкай на дом, неўзабаве гурманы змогуць набыць і кураня з грыля. Галоўнае, што ацанілі пакупнікі ў першы ж дзень – пакеты, ў якія адпускаюць тавар, тут бясплатныя. Народ жа наш любіць увагу да сябе, і тое, што хоць нешта можна атрымаць і задарма.

*У.Скрабатун*

# Рэгіён

в. Германавічы.
(Шаркоўшчынскі раён)
**Благавешчанскі касцёл.**
Пабудаваны ў 1787 годзе.
Касцёл -- помнік манументальнай архітэктуры, у якім спалучаюцца рысы барока і ранняга класіцызму.



Фота Ул. Скрыбатуна

## Зваротны адлік

**Ці мог хто-небудзь з удзельнікаў урачыстасцяў з нагоды 50-годдзя шклозавода "Гута" Пастаўскага раёна крыху больш чым два гады таму назад нават уявіць, якія змены хутка закрануць усіх. Тады ўсім працаўнікам і ветэранам шклозавода ўручылі ручныя гадзіннікі, не мяркуючы, што час у гісторыі рабочага пасёлка, закладзенага бельгійцамі ў 1905 годзе, ужо пачаў адлічваць зваротны ход.**

Рашэннем Гаспадарчага суда Віцебскай вобласці гэты шклозавод прызнаны банкрутам, а антыкрызісным упраўляючым у вытворчасці па яго справе прызначылі Аляксандра Мінько. У сучасным вобразе адно з асноўных бюджэтна-ўтвараючых прадпрыемстваў раёна з`явілася пасля аднаўлення ў 1949 годзе і выраблялa да 50 млн. штук шклотары для кансервавых заводаў. Да вайны тут выпалўлялі нават каляровае шкло, чарнільніцы, гарчычніцы і другія прылады, аб якіх былі наслуханы нават у Варшаве. У нашы дні завод заставаўся адзіным у краіне, хто выраблялў літровыя слоікі.

Але попыта на слоікі ў краіне, як і раней, не было, калі год назад пасля чатырохмесячнага прастою зноў запалілі шкловарачныя печы. Каб іх разагрэць спатрэбіўся месяц падрыхтоўкі, дапамога мясцовых, абласных уладаў, Мінбудархітэктуры і 16 мільёнаў рублёў інавацыйнага фонду. Але чаканага палягчэння не адбылося, нават яшчэ горш стала. Прадукцыя накіроўвалася па бартэру ў асноўным у Расію і Украіну ўзамен за кампаненты для выплаву шкла. Кожны месяц прыносіў 24 млн. руб. страт, завод стаў неплацёжаздольным.

-- Дзіўна, але, чамусьці, аб яго лёсе, -- кажа намеснік старшыні райвыканкама па прамысловасці Мікалай Каваль,-- ні словам не ўзгадалі на нарадах ва ўрадзе, якія разглядалі праблемы шкляной прамысловасці Беларусі. Між тым, на заводзе ў Гуце працуе 287 чалавек, амаль трэцяя частка жыхароў пасёлка, якіх на выпадак новага спынення няма куды падзець. Але ж шмат хто тут працуе сем`ямі, трэцяя частка калектыву -- моладзь. Без сур`ёзных інвестыцый, пераводу заводскай кацельні з паліўнага мазуту на газ шклозаводу "Гута" проста не ўзняцца з каленяў.

Ужо падлічылі, што рэканструкцыя плавільнай печы абыйдзецца ў мільён долараў. Нямала сродкаў спатрэбіцца, каб пачаць выпрабляць масава, а не саматужным спосабам, як зараз, слоік "еўра" з разьбой. Да таго ж знос абсталявання дасягнуў крытычнай адзнакі. Зразумела, што без дапамогі на рэспубліканскім узроўні ўдыхнуць новае жыццё ў крызіснае прадпрыемства не ўдасца. Хаця вядома, колькі цяпер праблем у айчыннай эканоміцы. Напрыклад, у мінулым годзе ў гаспадарчыя суды краіны было пададзена каля 900 заяў аб узбуджэнні спраў аб эканамічнай недзеяздольнасці, і 265 адказчыкаў былі прызнаны банкрутамі.

**Сёння шклозавод "Гута" – першы банкрут у Пастаўскім раёне. Гісторыя прадпрыемства яшчэ не скончылася, але і да чаканага эканамічнага аздараўлення шляхоў пакуль не бачна.**

*Уладзімір Шык*

## Сезон удалага палявання

Нішто так не радуе паляўнічую душу, як выяўленне дзічыны ў лясным масіве. Азарт, які не паддаецца апісанню, адчула нядаўна група паляўнічых Мёрскага раёна, калі пад час адной загонкі на Жадах знішчыла адразу 8 мацёрых ваўкоў. У цэлым паспяховым стаўся чарговы зімовы сезон для аматараў адпачынку са стрэльбай у гэтай мясцовасці. З даведзеным лімітам на адстрэл пушных звяроў і дзікіх парнакапытных справіліся члены 15 паляўнічых брыгад, на рахунку якіх здабыта 40 казуль, 20 дзікоў і лось. Паляўнічых радуе, што адчувальна ў лесе прыбаўляецца жывёл, для якіх яны яшчэ з восені стварылі запас кармоў на падкормачных пляцоўках. Актыўна ўдзельнічалі прадстаўнікі паляўнічага калектыву ў прыродаахоўных мерапрыемствах і затрымалі пад час супольных з міліцыяй рэйдаў 29 браканьераў. Дарэчы, усяго ў складзе раённай паляўнічай гаспадаркі 344 паляўнічыя, прычым, за год у яе склад прынялі 27 новых членаў.

*У. Шык*

## Безакцызныя драмы

Каля двух часоў ночы буйную партыю кантрабанднага грузу – 3100 пачак цыгарэт расійскай вытворчасці без акцызных марак выявілі міліцыянеры ў Пастаўскім раёне. Пасля дагляду аўтамабіля "Форд-транзіт" увесь тавар канфіскаваны, а на яго гаспадара наклалі штраф у памеры 500 тысяч рублёў. Не прадбачыў і жыхар вёскі Вялічкі Д., што з дзяржавай не жартуюць. Праз 5 дзён пасля першага "ўлову" таксама ноччу 13 лютага пры праверцы яго мікрааўтобуса "Фольксваген-транспарцёр" знайшлі 23 літры спіртных напояў, зноў без акцызных марак. Пакаранне ў такіх выпадках будзе няспынным. Адбыўся суд, які канфіскаваў мікрааўтобус разам з гарэлкай, а таксама аштрафаваў перавозчыка на 200 тысяч рублёў.

*Уладзімір Шык*

## Магло быць і горш

**У нашай газеце ўжо з'явілася паведамленне аб тым, што ўзарваўся снарад, які дадумаліся апрацоўваць на такарным станку рабочыя Пастаўскага ДРБУ-132.**

Да шчасця, наступствы гэтага інцыдэнту аказаліся не надта страшнымі, чым аб гэтым па гарачых слядах паведамілі інфармагенствы. Больш за ўсіх пацярпеў адзін з рабочых. Яго адразу адправілі ў вокавае аддзяленне абласной бальніцы. Двое іншых пацярпелых ужо выпісаліся пасля курсу лячэння ў хірургічным аддзяленні раённай бальніцы. У аднаго акрамя асколачных раненняў была пашкоджана грудная клетка і пярэдняя сценка жывата. У яго калегі па няшчасцю пашкоджана лакцявая костка правага перадплечча. Абодва цяпер знаходзяцца на амбулаторным лячэнні. Дарэчы, у сярэдзіне 90-х гадоў каля Пастаў у лясным балоце знайшлі сапраўдную гармату, якую перадалі ў міліцыю.

*Уладзімір Шык*

## Патурбавалі сялян

Калі жыхар вёскі пачуў адчайны лай хатняй сабакі, ён не на жарт занепакоіўся. Калі гаспадар выйшаў на двор, нікога там не ўбачыў. Толькі ў сабаччай будцы сядзеў узлахмачаны янот, які сумеў выгнаць адтуль сабаку. Агрэсіўнага нечаканага госця селянін забіў. Гэтым ён пазбавіў ад магчымай бяспекі сваю сям'ю, бо янот быў шалёны. Раней на хутары Пухаўка паў конь, які хварэў паўтара месяцы пасля ўкусу шалёнай лісы. Гэтыя драпежнікі, дарэчы, часцей іншых – 4 разы ў мінулым годзе заразіліся страшнай хваробай. Па дадзеных медыкаў раённага цэнтру гігіены і эпідэміялогіі, у 2001 годзе адзначана 9 выпадкаў шаленства дзікіх і хатніх жывёл. Расслабляцца нікому нельга, бо акрамя ліс і янотаў выяўлены шалёны кот, а таксама палі 2 каня, а дзесяткі людзей лячыліся пасля неасцярожнага абыходжання з імі.

*Уладзімір Шык*

## Гігант галіны на лапатках

Зусім нядаўна па якасных паказчыках прадукцыя камбікормавага завода ў Глыбокім была ў ліку лепшых на Беларусі. Але пасля таго, як прадпрыемства "кінулі" на падмогу айчыннаму птушкапраму, завод стаў імкліва гаснуць, а цяпер амаль спыніўся. У пачатку года вытворчыя магутнасці былі скарыстаны толькі на 12%, практычна поўнасцю пазбавіліся тут зваротных сродкаў. Да таго ж не ўдалося пазбегнуць спаду вытворчасці іншым прадпрыемствам раёна – заводу харчовых прадуктаў у Падсвілі, піўзаводу і малочна-кансервавому камбінату ў райцэнтры. Гэта вызначыла зніжэнне па Глыбоччыне ў цэлым паказчыкаў у прамысловасці ў 2001 годзе на 1,8%. Не надта адрозніваюцца і сяляне, якія паменшылі вытворчасць збожжа, бульбы, свініны, ільнотрасты. Што чакаць далей, калі ў глыбоцкім раёне 31 стратнае прадпрыемства, а гэта 41,3% ад агульнай колькасці.

## Беспрацоўя сумны твар

Жыхарка Пастаў паскардзілася, што яе сын пасля службы ў войску трэці месяц не можа знайсці работу, а адпускаць яго на заробкі ў Расію страшнавата. Вось ужо гадоў 8 запар узровень беспрацоўя тут – 4, 34% і працягвае заставацца адным з самых высокіх у краіне. Асабліва складана знайсці скарыстанне сваім сілам маладым жанчынам і асобам перадпенсійнага ўзросту. У службу занятасці звярнуліся за год 2264 жыхары, у якасці беспрацоўных зарэгістравана 1335 асоб у росквіце сіл. Па разліках дырэктара раённага цэнтра занятасці насельніцтва Алены Таразевіч і ў новым годзе не меней 1100 чалавек будуць шукаць сабе працу. Іх шанец на рынку працы невялікі, бо разлікі стратных прадпрыемстваў, пагроза банкрутства навісла над шклозаводам "Гута". Паміж тым за год толькі 4 шчаслівых чалавека атрымалі субсідыі для заняцця бізнесам, 3 беспрацоўныя сям'і з горада пераселены на вёску, 143 чалавека прайшлі перападрыхтоўку на курсах. Астатнім, як і раней, застаецца спадзявацца на грамадскія работы, якія аплочаны, на шчаслівы выпадак.

## Мяняюцца густы чытачоў

З трывогай чакаюць заканчэння падпіскі на другі квартал у калектыве Докшыцкага раённага вузла паштовай сувязі. З-за затрымак і так невысокіх заробкаў у Бярэзінскім краі ў сакавіку на кожную тысячу жыхароў прыходзілася па 750 экзэмпляраў газет і часопісаў, што ў два разы менш, чым у перыяд галоснасці. З пачатку года згубілі сваіх чытачоў амаль усе рэспубліканскія выданні, асабліва "Советская Белоруссия", якая пазбавілася ў раёне 267 падпісчыкаў. Раней яна нават апярэджвала цяперашняга лідэра – раённую газету "Родныя вытокі", у якой з 3180 пастаяннымі чытачамі прошта няма канкурэнтаў, як і ў часопіса "Гаспадыня"(736 экзэмпляраў). Мясцовай прэсе і абласным газетам "Народнае слова", "Віцебскі рабочы" людзі давяраюць больш, чым сталічным. Затое рэзка ўзрос інтарэс да "Комсомольской правды" і да "Аргументов і фактов". Яны дабавілі сабе па 146 і 71 падпісчыку адпаведна. А вось недзяржаўную айчынную прэсу больш набываюць у кіёсках, напэўна, каб не "засвечвацца".

*У.Шык*

## На вадаёмах неспакойна

Па правілах аматарскага рыбалоўства кожны, хто адпачывае на рэках і азёрах, можа вылавіць за дзень да пяці кілаграмаў рыбы. Навучэнец Глыбоцкага прафтэхліцэя П. з вёскі Азярцы налавіў карпаў і ляшчэй значна больш дазволенага. За гэта на яго налажылі штраф у памеры 58800 рублёў. Такіх прыкладаў у Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы прыродных рэсурсаў могуць прывесці дзесяткі. На вадаёмах затрымліваюцца грамадзяне, якія не ўваходзяць у таварыствы паляўнічых-рыбаловаў, беспрацоўныя, ды і проста браканьеры. У мінулым годзе выяўлена 417 розных парушэнняў, у 218 жыхароў краю адбіраліся сеткі. Акрамя плаўсродкаў, канфіскавана 102 браднікі і нераты, нямала васцей і іншай зброі бою і лову рыбы, асабліва якая ідзе на нераст. Агульная сума штрафаў склала 3 млн. 110 тыс. рублёў, але ці пакрыюць яны нанесеныя рыбным багаццям страты. Як лічаць спецыялісты, рыбныя запасы спусташаюцца не толькі з-за браканьераў, але і з-за малакаштоўных рыб, якія з'ядаюць ікру іншай рыбы ў час нерасту.

*У.Шык*

**Штогод Беларусь адзначае Сусветны Дзень турызму. Канец верасня - завяршэнне летняга турыстычнага сезону. У мінулым годзе, як і ў папярэдніх, колькасць беларусаў, якія выяжджалі за мяжу, была значна большай за прыежджых у краіну турыстаў. Дзесяцімільённую Беларусь летась наведалі шэсцьдзясят тысяч турыстаў. Для прыкладу: Чэшская Рэспубліка таксама налічвае дзесяць мільёнаў чалавек. У Чэхіі, як і ў Беларусі, ёсць невялікае мястэчка з назвай Глыбокае (Глыбокае-над-Влтавай). У чэшскім мястэчку над Влтавай жыве каля чатырох тысяч чалавек. Штогод Глыбокае наведвае паўмільёна турыстаў. Іншымі словамі, за два летнія дні столькі ж, колькі ўсю Беларусь - за год. Прапануем інтэрв'ю з мэрам чэшскага гарадка Томашам Йіршам.**

*Севярын Квяткоўскі*

# Чэшскае Глыбокае – паўмільёна гасцей за год



**RR:** -- *Адначасова колькі людзей знаходзіцца ў вашым горадзе?*

**Т.Й.:** -- У горадзе жыве тры з паловай тысячы чалавек. Вакол восем населеных пунктаў, плюс яшчэ тысяча. Мэрыя атрымлівае падаткі з гэтых людзей. Найбольш турыстаў да нас прыязджае ўлетку: дваццаць-трыццаць тысяч турысатў у дзень(!). Найперш турыстаў вабіць наш старажытны замак. Да таго ж, у нас вельмі развітая інфраструктура забаваў і адпачынку: басейны, тэнісныя корты, заапарк і г.д. Мы не бярэм падаткаў з турыстаў. Затое нашыя жыхары валодаюць рэстарацыямі, гатэлямі-прадпрыемствамі сервісу. Мы жывем з турыстаў. Беспрацоўе ў нашым горадзе -- два з паловай працэнты. Гэта нішто: толькі людзі, якія не хочуць працаваць. Гэта нармальна. Турысты вязуць грошы ў наш горад, ён багацее. Таму я нядаўна пабудаваў новы спартовы палац, як і ваш прэзідэнт (смяецца). На тры з паловай тысячы месцічаў у нас новы палац, новы стадыён, новыя корты для тэнісу, новыя стадыёны для бейсболу і футболу.

**RR:** -- *Колькі каштуе піва ў Глыбокім-над-Влтавай?*

**Т.Й.:** -- Ад 12 да 20 чэшскіх крон. Гэта 30-50 амерыканскіх цэнтаў. 22 цэнты ў самай таннай рэстарацыі.

**RR:** -- *Куды едуць на вакацыі жыхары Глыбокага?*

**Т.Й.:** -- Мы смяёмся, што самыя лепшыя канікулы - у Глыбокім. Напрыклад, у гэтым годзе я набыў самыя дарагія вакацыі ў сваім жыцці. Сваю жонку і дзяцей я адправіў на Маёрку і застаўся дома адзін. Гэта былі вельмі добрыя вакацыі для мяне (смяецца).

**RR:** -- *Зразумела, кожны жыхар Глыбокага ведае свайго мэра. А колькі Вы ведаеце асабіста месцічаў Глыбокага?*

**Т.Й.:** -- Калі ідзеш па вуліцы, - трэба вітацца. Часам я раблю памылку, я кажу турыстам: «Добры дзень».

***Паводле Радыё Рацыя***

# Выйшлі з крутога піке

**Да гэтага года ў калектыве Пастаўскага завода радыёкампанентаў "Беліт" толькі марылі сур'ёзна і надоўга замацавацца на аб'ёмным расійскім рынку. Калі з камплектуючых гэтага прадпрыемства распачалі выпуск сумесна з ЗАТ "Завод імя Казіцкага" ў Санкт-Пецярбургу новай мадэлі тэлевізара "Радуга", то гэтыя мары збыліся. Падзея гэта вельмі значная для пастаўчан, бо ў сярэдзіне 90-х гадоў завод практычна спыніўся.**

Яго будаўніцтва чвэрць стагоддзя таму прынесла шмат перамен у размеранае жыццё звычайнага раённага цэнтра. Сучасная вытворчасць павінна была акрамя абароннай галіны забяспечваць радыёдэталямі ўсе заводы былога СССР. Ад новабудоўлі плошчай у 11 гектараў горад атрымаў новы водазабор, магутную кацельню, пажарнае дэпо, новыя лініі сувязі і водаправоду, вырас жылы мікрараён. Немалаважна, што дабавілася больш 1500 высокааплочваемых рабочых месцаў, адзін з лепшых дзіцячых садкоў з басейнам. З распадам саюзу хутка наступілі цяжкія часы.

Алег Захарэвіч, новы дырэктар гэтага прадпрыемства, успамінае, што тады месяцамі ўвогуле стаялі. Зарплату работнікам не плацілі, і многія з іх самі звольніліся. Даводзілася скарачаць людзей дзесяткамі, і ў выніку цяпер на заводзе працуе менш за 500 чалавек. Не дапамагло ўваходжанне ў склад сталічнага аб'яднання "Гарызонт", бо і яно перажывала смутныя часы.

Яшчэ пяць год назад усім здавалася, што выжыць не ўдасца. "Не многія верылі, -- кажа намеснік дырэктара па маркетынгу Павел Райчонак, — што атрымаецца ў нас засвоіць вытворчасць спліт-трансфарматараў (ТДКС) навейшага пакалення, якое паралельна імкнуліся наладзіць яшчэ 6 іншых заводаў. Але з-за складанай тэхналогіі і патрабаванняў найвышэйшай якасці ў іх не атрымалася, а мы ў 1999 годзе пачалі выпускаць трансфарматары, якія вытрымліваюць напружанне на выпрабаваннях больш за 30 тысяч вольт. Наша прадпрыемства, па сутнасці, адзінае цяпер у СНД, якое здольна даваць аснастку тэлевізарам навейшага пакалення."

З таго часу ўдалося знайсці і замацаваць сваю нішу на рынку. Толькі ў мінулым годзе, працуючы па дзяржаўнай праграме "Імпартазамяшчэнне", выпуск навейшых спліттрансфарматараў давялі да 285 тысяч. Поўнасцю забяспечана камплектуючымі вытворчае аб'яднанне "Гарызонт" і на 27,5% агульная патрэба рынкаў Беларусі і Расіі. Гэта няпроста зрабіць у вострай канкурэнцыі з замежнымі вытворцамі. Ды і зыходныя матэрыялы для вырабаў прыходзіцца закупляць акрамя СНД яшчэ ў 9 фірмах Еўропы і Азіі. Паралельна завод выпускае трансфарматары, дроселі, адхіляючыя сістэмы, дэталі для рамонтнай базы састарэлых тэлевізараў.

Усяго ж у асноўных цэхах выпускаецца 42 найменні прадукцыі, уключаючы трансфарматары для іншых галін вытворчасці. Практычна ўся гэта прадукцыя паступае на экспарт, які за год вырас больш чым у 3,5 разы. Чаму навучылі ўвесь калектыў апошнія цяжкія гады, дык таму, што не трэба здавацца, нават у самым безнадзейным становішчы. Цяпер касцяк завода, 176 рабочых і служачых, інжынераў, якія адпрацавалі тут па 20 і болей год, накіроўваюць усе свае намаганні для захавання дасягнутай планкі якасці, пашырэння асартыменту вырабаў.

*Уладзімір Шык*

### Выбар прафесіі

# Праграміст – гэта сур'ёзна

**Камп'ютэр – гэта сучасная і модная рэч як для ўпрыгожвання пакоя ў стылі еўрадызайна, так, вядома, неабходная для выкарыстання розных відаў паслуг. Сказана крышачку з гумарам, але канкрэтна. Камп'ютэр – штука ўніверсальная. Яна замяняе тэлевізар, магнітафон… А якія магчымасці мае гэты маленькі агрэгат?! Што гаварыць, трэба адчуць: павольным і рашучым рухам націскаючы на клавіятуру, апыноўваешся ў свеце неверагоднай цікавай інфармацыі, знаходзіш новых сяброў па перапісцы, гартаеш, пільна гледзячы на манітор,**

Усё так спакусліва! Вы ўжо нават рашылі, што менавіта для поўнага шчасця Вам патрэбен камп'ютэр! Можа быць, але, здаецца, што старшакласнікі ўжо ўпэўнены ў рашэнні звязаць свой лёс менавіта з гэтым "тэхнічным вундэрам".

Выбар прафесіі ў гэтым накірунку справа складаная, таму сёння наш субяседнік Дзмітрый Міхайлавіч Пятровіч, інжынер-праграміст камп'ютэрнага клуба "Байт" культурна-аздараўленчага цэнтра "Гранд" дапаможа нам зразумець сутнасць прафесіі праграміста. Па апытанню моладзі яна лічыцца самай перспектыўнай і прэстыжнай.

– *Сёння колькасць праграмістаў павялічваецца…*

– Несумненна. Нягледзячы на тое, што іх колькасць сапраўды павялічваецца, але і попыт на высокаякасных спецыялістаў застаецца сапраўды вельмі высокім. Не сакрэт, што дыпломы беларускіх ВНУ па спецыяльнасці праграміста маюць высокую адзнаку за межамі нашай рэспублікі.

З дапамогай гэтай прафесіі знаходзіш сяброў за мяжой, размаўляеш з імі, абменьваешся вопытам, павышаеш сваё ўсебаковае развіццё, расшыраеш кругагляд.

– *Якія патрабаванні да чалавека гэтай прафесіі?*

– Канешне, у першую чаргу быць карыстальнікам звычайнага камп'ютэра, на ўзроўні "чайніка" (той хто паверхнасна ведае працу на камп'ютэры).

У другую, англійская мова выступае кіруючым звяном, а калі яно ў вас самае слабае, як у той тэлегульні, так у жыцці канкурэнцыі на рынку працы вам не стрымаць. Вялікая колькасць праграмнага забеспячэння прапануецца менавіта на англійскай мове, пры гэтым спецыфіка вядання мовы гэтай галіны патрабуецца на высокім узроўні.

Сапраўдны праграміст па жыцці, з кожнай хвілінай змяняючагася прагрэсу, тэхналагічных новаўвядзенняў павінен удасканальваць сваю асобу і вучыцца, яшчэ раз вучыцца. Менавіта гэта прымушае чалавека няспынна працаваць над сваім унутраным "я", прафесійна развівацца.

– *Якія недахопы прафесіі праграміста?*

– Па-першае, трэба адзначыць, што праграміст у сувязі з нястрыманым развіццём сусветнай камп'ютэрнай сеткі (**Internet, Fidonet**) проста вымушаны перапрацоўваць вялікую колькасць featureазнабаковай інфармацыі. Канешне, у першую чаргу, гэта патрабуе ад асобы надзвычай поўнай засяроджанасці, пільнай увагі і напружанай разумовай дзейнасці. Згадзіцеся, шаноўная, гэта здольны зрабіць далёка не кожны.

Па-другое, прафесія праграміста – "чалавека за камп'ютэрам", як усім нам вядома, стаіць ва ўліку нерухомых. Пастаянна сядзячы лад жыцця, напружанасць мыслення вядзе, як правіла, да паступовага парушэння зроку, суставаў кісцяў рук, пазванка. Верагоднасць з'яўлення гемарою, нервовых і псіхічных растройстваў таксама існуе.

– *У чым усё ж такі сутнасць працы "чалавека за камп'ютэрам"?*

– Галоўная задача праграміста прымаць разнастайную інфармацыю, перапрацоўваць, ствараць неабходныя праграмы, пастаянна ўдасканальваць праграмы, якія прапаноўваюцца. Трэба адзначыць, што інфармацыя змяняецца, прынцыпы яе перапрацоўкі, метады таксама, а сама яе колькасць непамерна павялічваецца.

– *Няўжо так ўсё немагчыма і цяжка?*

– Не так страшна, як здаецца, але трэба ўсведамляць усю сутнасць гэтай прафесіі, яе патрабаванні і рэальна ацэньваць свае магчымасці.



Фота IREX ProMedia

*Інтэрв'ю правяла Жанна Дзіско*

Паразважаем

# Якая самая прэстыжная прафесія ў Докшыцах?

**ПРЭСТЫЖ**, -- *у, м. Кніж. Аўтарытэт, перавага, якім карыстаецца хто-, што-н. Падняць прэстыж усяго раёна. [Фр.* **prestige.**] *(Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Т.4. П- Р/ [Рэд. тома Г.Ф.Вештарт, Г.М.Прышчэпчык.]. – Мн.: Гал. рэд. Беларус. Сав.Энцыклапедыі, 1980. – 768 с.)*

## Думкі ўслых

Камусьці гэта пастаноўка пытання можа здацца даволі неардынарнай і нязвыклай. У гэтым выпадку адразу ж узнікае стрэчная разважлівая рэакцыя Вашага разумення: "Докшыцы. Прэстыж. (Напэўна, пры гэтых словах Ваш выраз твару змяніўся і Вы гучна ўсміхнуліся). Гэтыя два зусім розныя паняцці, роднаснасць якіх адшукаць немагчыма. Яны не маюць нічога агульнага. Што можа быць прэстыжнага ў правінцыі з больш, чым 7-тысячным насельніцтвам?" Безумоўна, Вашы летуценныя разважанні з неверагоднай "хуткасцю сусвету" апантоўваюць Вашу свядомасць, якая, спадзяюся, момантам уражвае Вас логікай, неардынарным і творчым мысленнем. Сапраўды, калі цвяроза паразважаць, у нашага правінцыяльнага гарадка Докшыцы ў адносінах да сталіцы, адназначна, прэстыжнасці нават на аддегласці некалькі дзюймаў не бачна. Канешне, гэта што датычыцца прафесійнай дзейнасці. Як у правінцыі ёсць свае недахопы і станоўчыя бакі, так і ў сталіцы, але...у кожнага свой пункт гледжання і сваё меркаванне.

Як адзін знаёмы сказаў: "Ведаеш, у сталіцы – добра працаваць, а ў правінцыі – адпачываць, асабліва летам – шашлык, возера..." Якую б думку не выказвалі, але што ні гавары, а наша правінцыяльная моладзь чапляецца за якую-небудзь магчымасць, каб з'ехаць у сталіцу. Што цікава, гарадоў Віцебск, Лагойск, Гомель, Браслаў, Полацк – проста не існуе. Адзін напрамак – Мінск і толькі сталіца. Гэта нейкая невыразная ружовая абмежаванасць у выбары, штосьці неадэкватнае і супярэчлівае, бо адказ адзін

– Мінск – гэта прэстыж.

– Ты дзе зараз працуеш?

– У Мінску, на завод уладкаваўся.

– У Мінску?! "Падфарціла" табе! – здзіўленне, своеасаблівая павага, крапелька нястрыманай зайздрасці і радасць за сябра, які, сапраўды, рызыкнуў і вырваўся з шэрай паўсядзённасці правінцыяльнага гарадка прыемна ўразіў хлопца...

## А цяпер па-сутнасці

Але не будзем глабальна разважаць над сутнасцю нашага быцця, а дакладна адкажам на пытанне: "На сённяшні дзень якая прэстыжная прафесія ў г.Докшыцы?" Рэспандэнты на вуліцы спачатку ўсміхаліся, а потым рашуча адказвалі, пры гэтым большасць з іх называла пасады, а не прафесіі. У ліку пералічаных прафесій існавалі (праведзеныя адказы без змяненняў і карэкцыроўкі): энергетык, будаўнік-"шабашнік", "мент", "у райвыканкаме", цырульнік, урач, повар, электрасувязіст, мэнэджэр, "у аўтасэрвісе", "у падатковай". Але даволі значная большасць галасоў за тых, у каго менавіта працоўная дзейнасць звязана з грашыма – эканамісты і банкіры, бухгалтэры. Канешне, на гэтай планцы стаяць, нават не пахіснуцца, праграмісты і юрысты. Так, так, прэстыжнасць прафесіі, як на рэспубліканскім так і на раённым узроўні супадае. Цікава, але факт б'е прама ў твар, нават не дае магчымасці апамятацца.

## Пасада, заробак...

Чаму ж некаторыя апытваемыя прахожыя называлі пасаду? Прэстыж арганізацыі значна ўплывае на прэстыж як тваёй прафесіі, так і займаемай пасады. Сустракаюцца выпадкі, што людзі з-за малога заробку не могуць змяніць месца працы, таму што прэстыж арганізацыі, усталяваўшыеся сувязі ў ёй аказваюць на іх найбольшае ўздзеянне, чым жыццё ў галечы.

– Дзе ты працуеш?

– У Міністэрстве ўпраўлення?

– Манька, ты што? Калі? Як? Ты?! Ды ў Міністэрстве ўпраўлення? Ніколі б не здагадаўся? Манька, а кім?

– Кім? Кім? Прыбіральшчыцай, – з высока прыпаднятай галавой, расправіўшы плечы, падаўшы наперад грудзі, з гонарам і пачуццём замілаванасці сваёй асобай, гучна сказала Манька.

Лічыцца, што прэстыж прафесіі вызначаецца адносна попыту на рынку працы той ці іншай спецыяльнасці. Прэстыжная, здаецца, прафесія, а ў правінцыі на работу не ўладкуешся: няма вакансій. Вось і знік увесь прэстыж. Вучыўся, вучыўся, а работы няма. Але гэтая даволі непрыемная дробязь характэрна ў большасці выпадкаў для правінцыі. Абагульняючы ўсё вышэй сказанае, хочацца прывесці словы апытваемага мужчыны:

– На мой погляд, прэстыжных прафесій у г.Докшыцы няма. Лічу, што ўсе спецыяльнасці добрыя. Галоўнае, знайсці сябе ў віру гэтай шматлікай дзейнасці. Працаваць, развівацца, удасканальвацца як асобе, мэтанакіравана ўмацоўваць свае веды, павышаць прафесійныя навыкі. На маю думку, для моладзі –правінцыя – гэта пачатковая школа стаўлення сапраўднага прафесіяналізму.

*Жанна Дзіско*


*Фота IREX ProMedia*

## Напіцца і забыцца

Шмат бачылі за гады службы супрацоўнікі медвыцвярэзніка. Але і яны былі здзіўлены, калі нядаўна сюды праз дзень пасля 40-гадовага бацькі даставілі яго 16-гадовага сына. Практычна не засталося ў горадзе калектыва, адкуль бы не паступалі на адпачынак перапіўшыя кліенты. Смяротная цяга да спіртных напояў павялічваецца, і толькі за першыя тры тыдні года тут пагасцілі 96 п'яніц, што ў два разы перакрыла паказчык мінулага года. У адзін з вечароў напярэдадні ў "мойку" прывезлі 14 гараджан, якія ў гэты дзень атрымалі зарплату. Прычым трапляюцца сярод наведвальнікаў установы і жанчыны, і навучэнцы ліцэя, астатнія наведваюцца раз-пораз. Далёка не ўсё бяскрыўдна пасля такіх застолляў. Больш 35% усіх злачынстваў, якія былі зарэгістраваны на Глыбоччыне ў 2001 годзе, здзейснены ў п'яным выглядзе.

Лісты нашых чытачоў

# Як я віншаваў цешчу

8 сакавіка, як і ўсе мужчыны, я віншаваў сваіх жанчын са святам. Жонку я павіншаваў 7 сакавіка, падарыў кветкі, сціплы падарунак. 8-га ж мне давялося цэлы дзень працаваць. А вечарам вырашыў патэлефанаваць і павіншаваць маіх любых мам, бо па розных прычынах я пагаварыць сам-насам з імі не змог. Але я не страціў надзею і дазволіў сабе даверыць гэтую неадказную справу Міністэрству сувязі, якое нас так зазыўна запрашае скарыстацца іх паслугамі. З тэлеграфа, які знаходзіцца ў нашым слаўным горадзе Глыбокае, я паслаў «тэрміновыя тэлеграмы» адну ў Полацк маме, а другую – у вёску Казлоўшчына Пастаўскага раёна цешчы. У 19.15 8-га акавіка мае тэлеграмы адправіліся ў шлях, а я з пачуццём выкананага абавязку – дадому святкаваць.

Здавалася б, нічога цікавага – звычайная справа, але не спяшайся, паважаны чытач, адкладаць газету ў бок. Далей гісторыя куды больш захапляльная.



*Малюнак Ю.Лаўцэвіча*

9-га сакавіка ў мяне на рабоце зазваніў тэлефон. У трубцы я пачуў самы дарагі і знаёмы голас – мама спяшалася падзякаваць за тэлеграму і віншаванне, якое яна толькі што атрымала.

Цэлы дзень я правёў на рабоце ў чаканні такога ж званка ад другой мамы, але дарэмна. Як высветлілася пазней, паведамленне аб атрыманні тэрміновай (падкрэсліваю, тэрміновай) тэлеграмы мне б давялося чакаць вельмі доўга, у лепшым выпадку тры дні альбо 72 гадзіны. Вечарам 9-га я прыехаў у вёску Казлоўшчына з кветкамі, павіншаваў цешчу і першай справай ціхенька (бо гэта быў сюрпрыз) высветліў ці атрымала яна тэлеграму. Жанчына не на жарт спужалася. Я яе супакоіў і запэўніў, што ў тэлеграме не было нічога трагічнага. Адразу вырашыў патэлефанаваць у Паставы на паштамт і даведацца аб лёсе тэрміновага паслання. Зразумела, што я не спадзяваўся, што тэлеграма знойдзе адрасата 8 сакавіка, бо дзень святочны, але ж 9-га паштовае аддзяленне ў Казлоўшчыне працавала, так як і ў Полацку, дзе маю тэлеграму атрымалі яшчэ ў 8 раніцы ад тэлеграфісткі. Тое, што мне давялося пачуць павергла мяне ў стан лёгкага шоку, які павольна перайшоў у ціхае памяшальніцтва. Мне дасціпна растлумачылі, што так як мая тэлеграма была адраўлена не на звычайным бланку, а на віншавальным, то яе прывязуць з Пастаўскага аддзялення сувязі ў Казлоўшчыну толькі пасля святаў. А святкаваць яны будуць да аўторка, 12-га. Але гэта здзейсніцца тады, калі ў Казлоўшчыну з пошты пойдзе машына.

Я паведаміў, што ў Полацк мая тэлеграма дайшла яшчэ раніцай. Адказ напавал забіў мяне сваёй жалезнай логікай: "Не параўноўвайце Полацк з Казлоўшчынай." Я ўсё ж такі рызыкую параўнаць – ад Глыбокага да Полацка 80 кіламетраў, а да Казлоўшчыны – 30.

Затым я асцярожна папрасіў растлумачыць за што ж я плаціў грошы. На гэта адразу мне растлумачылі адсутнасць у маіх словах рацыі – бо грошы былі заплочаны смешныя. Пасля такога мне адразу захацелася кінуць сваю работу і ісці ў тэлеграфісты. Уяўляеце, колькі яны зарабляюць, калі для іх 700 рублёў (і гэта ад кожнага, хто меў неасцярожнасць паслаць тэлеграму), здаецца смеху вартай. Што ж, паважаны чытач, мне застаецца толькі спадзявацца, што да таго часу, як выйдзе гэты нумар газеты, мая дарагая цешча нарэшце атрымае тэрміновую тэлеграму і прачытае ў ёй віншаванне з Міжнародным жаночым днём!

Што тут яшчэ скажаш? Карыстайцеся паслугамі сувязі, калі не беражэце ўласныя нервы!

*Пастаянны чытач "Вольнага Глыбокага" Ханякоў Валерый*

# Маладосць за калючым дротам

**Пачатак 50-х гадоў. Нарыльск. Мы сабраліся адсвяткаваць Вялікдзень. Тады ўжо для зняволеных "ворагаў народа" былі пэўныя палёгкі. І можна было, напрыклад, адсвяткаваць нейкае свята. І хто ж сядзіць за сталом? Побач беларус, паляк, украінец, латыш, рускі, паволжскі немец. Там, у зняволенні мы роўна ставіліся адзін да аднаго, не было нацыянальнай варажнечы, кожны разумеў, што апынуўся тут па збегу абставін, з-за таго, што ў краіне пануе сістэма, якая не можа абысціся без мільёнаў грамадзян, якія кінутыя за краты. Гэта не толькі барацьба з іншадумцамі. Гэта яшчэ і танная рабочая сіла.**

Нарадзілася я ў 1925 годзе ў мястэчку Казяны цяперашняга Браслаўскага раёна. Сям'я была сялянскай, праваслаўнай па веравызнанню. Увогуле ж мястэчка было па насельнікам вельмі разнастайным. Жылі тут і праваслаўныя, і каталікі, і татары-мусульмане, і яўрэі , і так званыя маскалі — рускія стараабрадцы, якія некалі перасяліліся з Расіі. Не скажу, што жылі вельмі ўжо дружна. Але цярпімасць і, як кажуць пра беларусаў, талерантнасць , былі. Дзякуючы грашовай дапамозе блізкага сваяка, які выехаў на заробкі ў Амерыку, да пачатку вайны здолелі пабудаваць у Казянах цагляны дом. Праўда, закончыць будаўніцтва грошай не хапіла, таму большую частку дома аддавалі ў арэнду, як за ўплату даўгоў.

Да пачатку вайны я шэсць гадоў адвучылася ў польскай школе. У школе размаўлялі мы, канешне, па-польску, а па-за школай па-беларуску. У 1939 пачалася вайна. Паміж палякамі і немцамі. А адкуль узяліся ў нас рускія войскі, мне, чатырнаццацігадовай, і зразумець было цяжка. І ўсё-такі новае жыццё пакрыху прыходзіла і ў нашы Казяны. Арганізавалі калгас, бацька працаваў там рахункаводам. У нашым доме на кватэры жыла школьная піянерважатая. Яна і ўгаварыла неяк мяне, зацікавіла. У маі 1941-га я ўступіла ў камсамол. Таксама слаба ўсведамляла сабе, што гэта такое.



*Фота IREX ProMedia*

У вайну наша мястэчка апынулася , так бы мовіць, на лініі агню. І партызаны, і паліцыя, і немцы, і латышы. Змушаныя былі ўцякаць ад бяды. Тады, пад час уцёкаў, я згубілася ў лесе. Думала, што прападу. Толькі Бог, відаць, дапамог выратавацца, знайсці сваіх. Тады і дала зарок верыць у Бога і не вяртацца да атэізму. І бацька ў той калатнечы цудам выратаваўся, выпаўз з-пад мёртвых целаў.

Сям'я перабралася на радзіму, у вёску Заброддзе ля Пастаў. У Паставах я пайшла вучыцца ў сёмы клас ужо беларускай школы пры немцах. Не толькі з-за таго, што вельмі хацелася вучыцца. Тых, хто вучыўся , не забіралі на прымусовыя работы ў Германію. Потым закончыла дзевяцімесячныя настаўніцкія курсы. У 1943-м мяне і Крэскіяна накіравалі настаўнікамі ў Васіліны. Але мясцовыя партызаны забаранілі нам працаваць з дзецьмі, фактычна выгналі з вёскі. Пасля гэтага я працавала настаўніцай у Кашыцах. Тут партызаны не чапалі. Папярэджвалі толькі , каб я да пэўнага часу не выходзіла са школы. У іх былі свае справы, а я гэтага бачыць не павінна.

Мой бацька быў супраць Саюза беларускай моладзі, які быў арганізаваны пры немцах. Я ў яго не ўступала. Больш таго, ён хаваў мой даваенны камсамольскі білет, вяртаў яго мне пасля прыходу савецкай улады. Але я, верная зароку, яго не ўзяла. Пасля вайны працавала ў розных сельскіх школах Пастаўскага раёна.

Арыштавалі мяне 3 сакавіка 1947 года. Прыехалі прама ў школу ў санках і забралі. Сядзела ў склепе пад плябаніяй ля касцёла ў Паставах. Тут сустрэлася са сваёй знаёмай Тамарай Барсук. Фармальна я не была членам Саюза беларускіх патрыётаў, які тады выкрылі ў Паставах і Глыбокім, арыштавалі ўсіх членаў. З некаторымі хлопцамі і дзяўчатамі проста была знаёмая. Аднойчы мне сказалі, што яны збіраюць грошы, нібыта на набыццё друкарскай машынкі. Нейкі рубель з капейкамі ў мяне знайшоўся, я яго аддала. А той, хто збіраў грошы, унёс маё імя ў спіс. Нават мянушку мне прысвоілі — Лілея. Не скажу, што мяне ў час допытаў білі. Але начныя допыты, карцэр зрабілі сваю справу. Я вымушаная была прызнацца ў тым, чаго не было, і стала членам СБП. У чэрвені 1947 года на судзе ў Мінску я пачула свой прыгавор: восем гадоў лагеру і пяць год паражэння ў правах.

Потым шлях, знаёмы ўсім зняволеным таго часу. Перасыльная турма ў Оршы. Архангельск. Адтуль на параходзе завезлі нас у Нарыльск. Вельмі пакутлівы быў гэты шлях па моры. Данімала марская хвароба сялянскую жанчыну, якая і мора ніколі не бачыла. У Нарыльску трапіла я ў сёмы лагер. Гэта быў лагер для так званых бытавікоў. Але сядзелі тут зняволеныя, якія атрымалі не менш 10 гадоў. Працавала на разгрузцы вагонаў, кайлом дзяўбла вечную мерзлату. Потым жыццё дало нейкі шанц. Трапіла прыбіральшчыцай у заводскую лабараторыю. Умовы былі вельмі цяжкія. Пыл, загазаванасць. Але з'явілася нейкая перспектыва. З цягам часу я стала лабарантам, а потым і старшым лабарантам. У Нарыльску зняволеным давалі больш хлеба, да таго ж можна было з маёй невялікай зарплаты на дзесяць рублёў у месяц нешта прыкупіць паесці ў платнай сталовай.

Ды толькі так было да 1950-га года. Тады нас, палітычных, аддзялілі ад бытавых зняволеных і перавялі ў спецыяльны лагер. Я атрымала, як і іншыя, свой нумар "Т-437", на працу – выгрузку шлаку — нас вадзілі пад канвоем, з сабакамі. Начам барак замыкалі. Тут табе побач і параша.

Ужо пры праўленні Хрушчова лагерам ахапіла забастоўка. Пачалася яна з Варкуцінскіх лагераў, але вельмі хутка перакінулася і да нас. У зняволеных свае шляхі зносін. У мужчынскіх лагерах зняволеныя ваявалі з аховай кавалкамі цэглы. Мы, жанчыны, толькі крычалі, не выходзілі за дрот, як таго патрабавала ахова. Дарэчы, мой будучы муж Аляксандр Ягоравіч, сядзеў у 5 лагеры. Пасля забастоўкі мы з ім і пазнаёміліся. Праз дрот перагаворваліся.

Нейкія паслабленні прыходзілі паступова і ў нашы лагеры. Апошні час я працавала ў цяпліцы на вырошчванні агуркоў. Вызвалілі мяне 29 жніўня 1954 года па адбыцці тэрміну зняволення. Вызваліўся і Аляксандр Ягоравіч, у якога тэрмін быў 10 год і 5 гадоў паражэння ў правах. За што атрымаў? Свая, таксама не вельмі вясёлая гісторыя. Але ніякім ворагам народа ён не быў. Увогуле, пасаджаны ў 45-м, столькі адседзеўшы, ён да канца свайго жыцця не любіў успамінаць гэты горкі час.

Ён у мяне быў рускім. Рускі адзін з зяцёў, другі зяць з Малдавіі. Я ніколі не падтрымлівала і не разумела тых, хто стаіць на пазіцыях крайняга нацыяналізму, імкнецца ўсе праблемы і беды перакласці на прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей. Кожны адказвае за сябе сам. Я пачала гэтыя ўспаміны з аповяду аб тым інтэрнацыянале, які быў у нас у зняволенні. Гэтым і закончу. Няма благіх народаў. Ёсць благія людзі, ёсць сістэмы, якія варагуюць са сваімі народамі. Мы былі ахвярамі такой сістэмы.

*Алена Мітрафанаўна Мацук (Іларыёнава)*

Да 84-х угодкаў абвешчання незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі

# Ці была БНР марыянеткавай дзяржавай?

Стварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі было заканамерным этапам у развіцці нацыянальна-вызвольнага руху ў Беларусі пачатку XX стагоддзя. Усебеларускі кангрэс, які адбыўся ў снежні 1917 года, выказаўся за аўтаномную рэспубліку Беларусь у складзе федэратыўнай савецкай Расіі. Але нават такая пастанова выклікала абурэнне кіраўнікоў бальшавіцкай партыі, і яны, як вядома, выкарысталі сілу. У 1918 годзе лідэр бальшавікоў "Западной области" В.Кнорын пісаў: "Мы считаем, что белорусы не являются нацией и что этнографические особенности, которые их отделяют от остальных русских, должны быть изжиты". Рада і Выканаўчы камітэт, абраныя кангрэсам, былі тады адзінымі прадстаўнікамі інтарэсаў беларусага народа.

У лютым-сакавіку 1918 года гэта Рада была папоўненая прадстаўнікамі з месцаў і пераўтвораная ў беларускі парламент -- Раду Беларускай Народнай Рэспублікі. Выканаўчы камітэт стаў урадам БНР, які называўся Народным Сакратарыятам. У яго ўвайшлі Язэп Варонка, Алесь Бурбіс, Іван Серада, Васіль Захарка, Аркадзь Смоліч, Пётра Крэчэўскі, Кастусь Езавітаў, Антон Аўсянік, Лявон Заяц.

25 сакавіка 1918 года ў 3-й Устаўной грамаце Рады БНР Беларусь абвяшчалася вольнай і незалежнай дзяржавай. Устанаўліваўся 8-гадзінны працоўны дзень; лясы, азёры і нетры нацыяналізаваліся; зямля без выкупу перадавалася тым, хто на ёй працуе. Абвяшчалася вольнасць слова, друку, сходаў, забастовак, веравызнання, незачэпнасць асобы і памяшкання. Нацыянальным меншасцям на беларускай зямлі не было гвалту: яны мелі права на нацыянальна-персанальную аўтаномію.

Беларускую Народную Рэспубліку афіцыйна прызналі Украіна, Турцыя, Фінляндыя, Аўстрыя, Чэхаславаччына, Літва, Эстонія, Латвія, Польшча, Арменія, Грузія.

Пры канцы лютага ў Менск, дзе знаходзіўся ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі, прыйшлі войскі кайзераўскай Нямеччыны. Яны забралі касу Народнага Сакратарыята, сарвалі з яго будынка бел-чырвона-белы сцяг, выгналі службоўцаў. Лідэры БНР былі папярэджаныя, што акупацыйныя ўлады не дапусцяць у Беларусі сур'ёзнай палітычнай дзейнасці. Паводле дамоўленасці з бальшавікамі ў Берасці, немцы абавязаліся не прызнаваць новых дзяржаўных утварэнняў на тэрыторыі былой Расійскай імперыі.

Урад БНР не прытрымліваўся ў сваёй дзейнасці і польскіх інтарэсаў. Ён катэгарычна адхіляў прэтэнзіі заходняга суседа на беларускія землі. "Старшыня Беларускай Рады п.Луцкевіч, прыбыўшы нядаўна ў Варшаву, хоча выратаваць фікцыю беларускай дзяржаўнасці і вядзе перамовы з польскім урадам. Урад без асаблівай ахвоты вядзе перамовы", -- гэтак, пагардліва для беларусаў, адзначалася на з'ездзе інструктараў польскай ваенізаванай арганізацыі "Страж крэсова" ў верасні 1919 года.

Такім чынам, урад БНР дбаў толькі пра інтарэсы сваіх грамадзян, беларускага народа. Лічыць Беларускую Народную Рэспубліку марыянеткай Нямеччыны, Польшчы ці якой іншай дзяржавы няма ніякіх падстаў.

*Т.Процька*

# Падрэзаныя крылы "Белого аиста" і фальшывая "Душа монаха"

**"Віно – гэта як прыгожая жанчына, якую не павінен кожны лапаць рукамі". Спецыялісты ўпэўнены: толькі калі на адным прадпрыемстве захоўваецца ўвесь цыкл – пераапрацоўка вінаграда, вытворчасць вінаматэрыяла, апрацоўка віна, яго разліў, — тады можна гаварыць пра якасць і кантраляваць яе.**

Аб якасці "наліўных" він, разліў якіх адбываецца на заводзе другаснага вінаробства, гаварыць складана. Добра, калі на заводзе – а калі не? Малдаўскія вінаробы расказваюць, што ім прыходзілася бываць на такіх беларускіх "прадпрыемствах", дзе выпускаюцца знакамітыя маркі малдаўскіх вінаў. Як і каньяк – таго ж "Белого аиста", самага вядомага малдаўскага каньяка, рэцэптура якога была распрацавана ў 1978 годзе.

"Добры каньяк" – гэта якасная сыравіна, добрая тара і рэальная вытрымка каньячнага спірту не менш трох год. Цікава, што ў малдаўскіх магазінах каньяк трохгадовай вытрымкі каштуе 1,5 долара, а сямігадовай – каля 3,5 долара. На Беларусі як віны, так і каньякі каштуюць, як правіла, у два і больш разоў даражэй. Беларускія імпарцёры малдаўскіх він тлумачаць гэта вялікай колькасцю плацяжоў на імпартныя віны. Папершае, імпарцёры, якія атрымалі на тэндэры квоту на ўвоз віна, павінны за яе заплаціць (40 рублёў за літр), па-другое, аплаціць кошт утылізацыі бутэлькі (36 рублёў), па-трэцяе заплаціць акцыз (190). Акрамя таго, віно даражэе яшчэ і за кошт 20-працэнтнай гандлёвай надбаўкі і 5-працэнтнага "прэзідэнцкага" падатку ў рознічнай гандлёвай сетцы. Але з 1 студзеня гэтага года гандлёвая надбаўка вырасла да 30%, а "прэзідэнцкі" падатак – да 10%. І сёння атрымоўваецца, што малдаўскае віно на Беларусі толькі з-за пералічаных плацяжоў вырастае ў цане ў два разы. Верагодна, калі б дзяржава не так актыўна імкнулася зарабіць на імпартных вінах, у нас было б больш сапраўдных недарагіх малдаўскіх він, якія ў самой Малдове п'юць шмат і не п'янеюць – першыя тры шклянкі поўныя, а потым ужо ў залежнасці ад вагі. А прафесіяналы-вінаробы могуць шмат расказаць аб карысных якасцях віна: напрыклад, што жанчыны "губляюць шмат крыві" з мужчынамі, і таму ім абавязкова патрэбна піць чырвонае сухое віно. Дарэчы, Мікеланджэла, якога цытуюць вінаробы, лічыў што мужчынам чырвонае віно таксама дапамагае ўзнаўляць "згубленую кроў". Але ўсё гэта лірыка. Сёння, як думае намеснік дырэктара па навуцы Малдаўскага нацыянальнага інстытута вінаграднага віна, доктар тэхнічных навук, прафесар Мікалай Таран, да 40% малдаўскіх він Беларусі – падробныя.

*«СВ»*


*Фота IREX ProMedia*

# "Млын моды – 2002"

**Стартаваў чарговы, на гэты раз юбілейны 10-ы фестываль-конкурс моды і фота "Млын моды – 2002". За гады правядзення ён ператварыўся з конкурсу манекеншчыц у самы буйны рэспубліканскі фестываль дызайнераў адзення.**

Галоўным арганізатарам фестывалю выступае Цэнтр сучаснага стылю і моды **Universum models** БДУ, які з'яўляецца афіцыйным прадстаўніком Міжнароднага конкурсу маладых дызайнераў адзення, які праводзіўся дабрачынным фондам "Русский силуэт". Яго прэзідэнтам з'яўляецца Таццяна Міхалкова, якая стане госцяй заключнага этапу фестывалю. Беларускі фестывальконкурс моды некалькі год назад стаў састаўной часткай гэтага міжнароднага конкурсу. Яго пераможцы восенню будуць запрошаны на фінал у Маскву, дзе галоўным прызам стануць бясплатныя прафесійныя стажыроўкі аўтараў калекцый у буйнейшых дамах моды Расіі, Еўропы і ЗША. Заўважым, што пераможцы конкурсу мінулых год, паспяхова прайшоўшыя стажыроўку ў маскоўскіх і замежных дамах мадэляў, вярнуліся ў Беларусь. Вольга Самошчанка і Таццяна Коціс на конкурсе "Русский силуэт" атрымалі першую прэмію за выхад і заваявалі прыз часопіса "Офисьель", які будзе на сваіх старонках рэкламаваць іх прадукцыю і займацца яе прасоўваннем на рынку.

Сярод запрошаных таксама вядомы расійскі куцюр'е Ігар Чапурын, які ў свой час быў адлічаны за непаспяховасць з Віцебскага індустрыяльнага інстытута.

З 1 па 22 сакавіка ў будынку ліцэя БДУ ў рамках фестывалю праходзяць "Сталічныя паказы", на якіх свае калекцыі дэманструюць дызайнеры з беларускіх рэгіёнаў.

Далёка не ўсе мадэлі рэгіянальных дызайнераў маюць прыкладное значэнне, але любое адкрыццё пачынаецца з эксперыменту. Дарэчы, па словах кіраўнікоў Цэнтру сучаснага стылю і моды **Universum models** Сашы Варламава, "дызайнеры ўвасабляюць толькі тое, што жадае ў дадзены момант атрымаць публіка, і не больш. Мода ніколі не дыктуе, мода толькі адлюстроўвае". Па выніках паказаў будзе падрыхтаваны поўнакаляровы каталаг фестывалю-конкурсу. Асноўныя паказы пройдуць у Палацы рэспублікі з 19 па 21 сакавіка.

*"СВ"*

# Геапатагенная зона. Якую шкоду яна наносіць

**Народны лекар з Балгарыі Іван Ётаў лічыць: здароўе чалавека напрамую залежыць ад таго, дзе ён адпачывае, а якасць працы суадносна ад знаходжання рабочага месца.**

Да гэтай высновы ён прыйшоў калі абследваў больш чым 10 тысяч людзей, з якіх больш паловы цярпелі ракавае захворванне. Аказалася, што ўсе яны без выключэння адпачывалі ў "гібдых" месцах. Вынікі Ётава — не навіна. Аб тым, што існуюць неблагапрыемныя і шкодныя для здароўя месцы, дагадваліся са старажытных часоў. Аб "ракавых дамах", дзе з пакалення ў пакаленне касіла людзей смерць, было вядома ўжо даўно. Тады лазаходцы, правяраючы праклятыя паселішчы з дапамогай раздвоенага прута вярбалозы, выяўлялі ў іх, як правіла, смертаносныя зоны.

Нямецкі вучоны Густаф фон Поль адным з першых стаў усур'ёз вывучаць гэтую праблему. Правёўшы даследванні ў дамах 58 чалавек, памерлых ад раку,ён прыйшоў да высновы, што ўсе яны адпачывалі ў месцах моцнага зямнога выпраменьвання, гэта значыць, у геапатагенных зонах.

У перакладзе "геапатагенны" азначае "хваробатворная зямля" (геа – зямля, патагенны – хваробатворны). Як бачыце, ужо само гэта слова кажа аб знішчальнай сутнасці гэтай з'явы.

Геапатагенная зона – найпрасцей невялікі кавалак зямлі, на якім існуе невядомае прыроднае выпраменьванне, якое знішчальна ўздзейнічае на ўсе біялагічныя аб'екты і, у прыватнасці, на чалавека. І калі чалавек доўга знаходзіцца ў такой зоне, то гэта прыводзіць да розных захворванняў, асабліва ракавых.

Ва ўсім свеце было праведзена шмат эксперыментаў, якія выявілі наступнае: калі людзей на кароткі час памяшчалі ў геапатагенную зону, то іх здароў'е рэзка пагаршалася, часцей станавіўся пульс, падскокваў ціск, пачыналася арытмія сэрца. Да таго ж мяняўся біяхімічны аналіз крыві і электрасупраціўленне скуры. Прасцей кажучы, калі рабочае месца чалавека прыходзіцца на шкодную зону, то прадуктыўнасць яго мыслення рэзка памяншаецца. Апрача гэтага, былі прааналізаваны шмат выпадкаў захворванняў ракам і выяўлена заканамернасць: хворыя доўга знаходзіліся ў шкодных зонах. Таксама з іх уплывам звязаны не толькі рак, але і склероз, астма, артрыт і бранхіт.

Але "хваробаўтваральная зямля" шкодзіць не толькі чалавеку. Нізкія ўраджаі, дрэнная якасць збожжа могуць быць вынікам анамальных зон у тых выпадках, зразумела, дзе яны вялікія па памерах. Пакутваюць і жывёлы.

Увогуле можна сказаць без перабольшвання, геапатагенныя зоны ўздзейнічаюць на ўсё: на разломіны цагляной кладкі, разрыў газаправоду, іржы трубаправодаў, каналізацыйных сістэм і г.д. Нават, як не парадаксальна, на аўтамабільныя здарэнні.

Дзе ж, у якіх месцах узнікаюць геапатагенныя зоны? Больш за ўсё яны праяўляюць сябе ў месцах перакрыжавання вадзяных пратокаў, а таксама месцах утварэння карставых пустэч, горных разломаў, на дне высахлых вадаёмаў, паблізу згібу рэчышчаў. У поймённых і падтопленых землях дамы будаваць небяспечна, там гэтыя зоны выражаны асабліва моцна.

Заўважана, зямное выпраменьванне дзейнічае па вертыкалі і практычна не экраніруецца. Таму геапатагенная зона будзе аднолькава шкодная як на першым паверсе шматпавярхоўкі, так і на апошнім.

Жывёлы, у адрозненне ад чалавека, вельмі адчувальныя да геапатагенных зон. Лічыцца, што нейкім чынам каты адчуваюць і знаходзяць іх. Прычым, яны нават аддаюць перавагу знаходжанню ў адмоўных месцах. А вось сабакі, тыя наадварот, выходзяць з іх. І калі сабака размясціўся спаць у хаце недзе па свайму выбару, ведайце, месца гэта небяспечнае і для Вас. Тое ж самае можна казаць аб конях, каровах. Яшчэ геапатагенныя зоны вызначаюць біялакацыйным метадам. Пры дапамозе звычайнай дротавай рамкі апаратар абыходзіць кватэру і па яе вярчэнню вызначае месца знаходжання шкоднай зоны.

Так што выбірайце месца дзе Вам лепш адпачываць і працаваць.

*Таццяна Смоткіна*

